# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 1 (827) ГОД XVII БЕЛАСТОК 2 СТУДЗЕНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.

## З НОВЫМ ГОДАМ!

Уступаем у новы год, XVII год выдавання «Нівы». Прыемна ўступаць у такі ўзрост, адчуваць сябе маладым, бачыць ясныя перспектывы, што адкрываюцца перад табою, і з чыстым сумленнем і адкрытым сэрцам ісці насустрач будучым дням.

З такімі пачуццямі ўступаюць у новы, 1972 год многія мільёны грамадзян нашай краіны. У нас жа ёсць усе падставы мець сёння менавіта такі настрой. Аднаўленне, якое ў мінулым годзе ахапіла ўсе галіны нашага жыцця і завяршылася гістарычным VI з'ездам нашай партыі, уступае ў новую, вышэйшую фазу. Як сказаў у заключнай прамове на з'ездзе Першы сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк, VI з'езд апраўдаў спадзяванні, ускладзеныя на яго партыяй, рабочым класам, польскім народам. Ён выканаў іх перш за ўсё, дзякуючы аднадушнаму і рашучаму адабрэнню палітыкі, якую наша партыя прыняла пасля 7-га пленума Цэнтральнага Камітэта, удакладніла на 8-м пленуме і паслядоўна ажыццяўляла. Гэта палітыка, развітая і ўзбагачаная з'ездам, стала сёння — на аснове яго рашэнняў — лініяй нашай партыі. Гэта марксісцка-ленінская лінія. Яна выражае на цяперашнім этапе развіцця жыццёва важныя інтарэсы нашага народу, накіравана на працяг і замацаванне дасягнутых ім поспехаў у справе сацыялістычнага будаўніцтва, ідзе насустрач новым запатрабаванням і спадзяванням грамадства.

З'езд выканаў ускладзеныя на яго надзеі, аднадушна пацвердзіўшы прынцыповасць, з якой наша партыя адхіліла дэфармацыю метадаў кіраўніцтва і аднавіла ленінскія прынцыпы сваёй работы. Рашэнні і пастановы VI з'езду ствараюць трывалыя прадпасылкі для ўмацавання сувязі партыі з рабочым класам, з усім народам, сувязі, якая з'яўляецца галоўнай крыніцай ідэйна - палітычнай сілы партыі, гарантыяй поспехаў яе работы ва ўсіх галінах жыцця, асновай яе кіруючай ролі ў сацыялістычным будаўніцтве.

Галоўны вынік VI з'езду — гэта праграма далейшага сацыялістычнага развіцця Польшчы. Яна стала асноўнай дырэктывай дзейнасці партыі і ўраду, яна вызначае ўсенародныя мэты, і ажыццяўленню яе мы прысвяцім нашу працу. Вядучая думка гэтай праграмы — паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця Польшчы і рэальнае паляпшэнне ўмоў жыцця грамадзян.

Тут для кожнага, хто б ён не быў і дзе б ён не працаваў, знойдзецца сваё месца. Ёсць яно і для нас, журналістаў сямнаццацігадовай «Нівы». і для ўсіх членаў БГКТ. І мы ўпэўнены, што кожны з нас, усведаміўшы сваю ролю ў вялікай усенароднай праграме аднаўлення краіны, з творчым запалам, з натхнёнымі думкамі прывітае новы, 1972 год.

З Новым Годам! З новымі жыццёвымі поспехамі!




**Галоўнае праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства з выпадку Новага Года шле ўсім сваім актывістам, членам і сімпатыкам самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні далейшых дасягненняў у грамадскай працы і шчасця ў асабістым жыцці.**



*«Лявоніха». Дуэт: Тэкля Вашчук (справа) і Ядвіга Завадская.*
*Фота Цаф — Сянько.*

## ПАРТЫЯ БАРАЦЬБІТОЎ ЗА НАРОДНУЮ ПОЛЬШЧУ

Польская рабочая партыя паўставала ў трагічным часе. Амаль уся заходняя і цэнтральная Еўропа апынулася пад гітлераўскай акупацыяй.

Толькі на ўсходзе Еўропы, на заснежаных палях пад Масквой заяснела яркая заранка надзеі: Чырвоная Армія ўстрымала наступленне нямецкіх захопнікаў і ў цяжкіх баях адкінула іх ад сталіцы.

Польскі народ ужо звыш году знаходзіўся пад прыгнётам захопнікаў. Па ўсяму краю раскінуліся калючыя агароджы канцэнтрацыйных лагераў, задымілі коміны крэматорыяў. Фашысты пачыналі здзяйсняць свае людабойчыя планы, згодна з якімі асноўная частка польскага насельніцтва павінна быць знішчана.

Перадавая частка польскіх рабочых, сялян і інтэлігенцыі пачынае гуртавацца ў антыфашысцкіх арганізацыях: Саюзе вызваленчай барацьбы, Аб'яднанні прыяцеляў СССР, «Серп і Молат» — у Варшаве, «Народнай Польшчы» — у Кракаве, Фронце барацьбы за нашую і вашую свабоду — у Лодзі, Рабоча-сялянскай баявой арганізацыі — у Любліне, Антыфашысцкай арганізацыі — у Беластоку. Вядучую ролю ў гэтых арганізацыях адыгрывалі былыя члены Камуністычнай партыі Польшчы. Аднак для дзейснай барацьбы за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне неабходна было згуртаваць гэтыя сілы, шырока разгарнуць іх дзеянні.

Ужо ў канцы 1940 года Выканаўчы камітэт Камуністычнага інтэрнацыяналу пачаў гуртаваць польскіх камуністаў, якія прыбылі ў СССР з Іспаніі, Францыі і акупаванай Польшчы. У ліпені 1941 года перад імі было пастаўлена заданне апрацаваць праграму і арганізацыйныя асновы партыі і, прарваўшыся цераз лінію фронту, стварыць у акупаванай Польшчы рабочую партыю. Заданне было цяжкае і небяспечнае. Першая спроба пранікнуць у айчыну ў верасні 1941 г. не ўдалася. Толькі ўначы з 27 на 28 снежня 1941 года Ініцыятыўная група ППР на чале з М. Навоткам і П. Фіндэрам шчасліва прызямлілася на парашутах у ваколіцы Вар-

*(Працяг на стар. 5)*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 7-га снежня на справаздачна-выбарным сходзе гуртка БГКТ у Літвінавічах са справаздачай выступіў М. Куптэль. Праект плана працы прадставіла Р. Чыжык. Сакратар сямяціцкага аддзела БГКТ М. Вішанка ўручыў новыя членскія легітымацыі. У новае праўленне ўвайшлі: М. Куптэль (старшыня), А. Мішчук, Е. Германюк, Л. Леўчук і А. Леўчук. Выбраны тры дэлегаты (члены праўлення) на канферэнцыю аддзела.

■ Гурток БГКТ у Вульцы Нурэцкай на справаздачна-выбарным сходзе прыняў 12 новых членаў. Прыняў у ім удзел сакратар КГ ПАРП у Клюковічах — М. Кусачук. У праўленне гуртка выбраны М. Рудчык (старшыня), Ніна Ахрымюк і І. Баранаў. На канферэнцыю сямяціцкага аддзела паедуць М. Рудчык, П. Зубрыцкі і Н. Ахрымюк. (М. В.)

■ У справаздачна-выбарным сходзе гуртка БГКТ у Новым Востраве (15.XII.) прыняў удзел сакратар ГП Я. Зенюк. Справаздачу за мінулую кадэнцыю і праект далейшай дзейнасці гуртка прадставіў Ул. Парфенюк. Падчас дыскусіі найбольш увагі было прысвечана справе свабоднага і нявыкарыстанага школьнага памяшкання, якое магло б спаўняць ролю святліцы. Затым было выбрана новае праўленне гуртка, а таксама дэлегаты на канферэнцыю аддзела БГКТ у Саколцы. У склад праўлення выбраны Ул. Парфенюк — старшыня, М. Грыбок — сакратар і У. Шалевіч — скарбнік.

■ У Сухінічах справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ таксама адбыўся 15-га снежня. З дакладам і праектам плана працы гуртка выступіла Г. Сакалоўская. Члены БГКТ выбралі яе ізноў старшынёй гуртка, а членамі праўлення — А. Барадзіча, Г. Шчасновіч і К. Малішэўскага. Выбраны былі таксама тры дэлегаты на справаздачна-выбарную канферэнцыю аддзела. Абслужылі сход: культурна-асветны кіраўнік ГП С. Лукашук і член прэзідыума сакольскага аддзела БГКТ А. Пракапюк.

■ 16-га снежня пад старшынством кіраўніка мясцовай школы, сакратара партыйнай арганізацыі М. Філановіча адбыўся справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Паўднёвым Востраве. На ім старшыня ГП М. Хмялеўскі ўручыў усім новыя членскія легітымацыі. Пасля зацвярджэння плана працы на 1972 год было выбрана новае праўленне гуртка: В. Хмялеўскі (старшыня), Г. Жамойда (сакратар), Г. Мякіш (скарбнік) і члены: М. Жамойда і Г. Лінкевіч. Прадстаўляць гурток на канферэнцыі аддзела будуць В. Хмялеўскі, М. Хомчык і І. Куклік. У сходзе ўдзел таксама прынялі член прэзідыума ГП, паэт А. Баршчэўскі і сакратар сакольскага аддзела БГКТ І. Аношка. Пасля сходу наш беларускі паэт выступіў са сваімі вершамі.

■ Вялікім зацікаўленнем прысутных карысталася аўтарская сустрэча А. Баршчэўскага (16.XII. 1971 г.) у Паўночным Востраве. Пасля яе жыхары вёскі пастанавілі заснаваць гурток БГКТ. 14 чалавек падпісалі членскія дэкларацыі, выбралі праўленне БГКТ, дэлегатаў на справаздачна-выбарную канферэнцыю аддзела і пры дапамозе старшыні ГП М. Хмялеўскага і сакратара сакольскага аддзела БГКТ І. Аношкі — апрацавалі змястоўны план дзейнасці гуртка на 1972. У праўленне гуртка выбраны: Ул. Сіткевіч (старшыня), І. Гаспрэрчык і М. Максімец. (мс)

